# Права на волю

№ 9(33)
Травень 1999

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




Улады фіксуюць кожны крок апазіцыі...

# Лацінаамерыканскі варыянт?

*Раптоўнае зьнікненьне аднаго з лідэраў апазіцыі, былога міністра ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь Юрыя Захаранкі наводзіць на трывожныя думкі...*

Усе дыктатуры падобныя адна да адной як дочкі адной маці. Адрозьненьні, вядома, могуць быць істотнымі, але родавыя прыкметы застаюцца тымі ж. І бадай асноўная з іх — нецярпімасьць да іншадумства і змаганьне з яго праявамі з дапамогай любых, нават самых гнюсных і подлых, жорсткіх і нечалавечых сродкаў.

Беларускі рэжым дэманструе гэта ад першых дзён свайго існаваньня. У барацьбе з апазіцыяй ён перабраў ужо ўвесь арсенал спосабаў барацьбы, прыдуманы рознага кшталту тыранамі — ад Нерона да Гітлера і Сталіна.

(Працяг на стар.2)

## Хроніка

*24 красавіка* прыкладна ў 17 гадзінаў у выніку аўтакатастрофы, якая адбылася на трасе Мінск-Масква ў раёне г.Крупкі Мінскай вобласьці, загінуў старшыня аб'яднаньня прадпрымальнікаў г.Мінска і Мінскай вобласьці "Садружнасьць" Арнольд Пячэрскі. А.Пячэрскаму было 34 гады, ён вядомы тым, што арганізоўваў некалькі забастовак прадпрымальнікаў на стадыёне "Дынама" і на рынку гандлёвага дому "Ждановічы". Арнольд Пячэрскі зьяўляўся даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра, а таксама прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта Беларусі, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня на 16 траўня.

*5 траўня* ў раёне плошчы Свабоды быў затрыманы асобамі ў цывільным Уладзімір Барадач — давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Непадалёку ад будынку французскай амбасады супрацоўнік ДАІ спыніў "Мерсэдэс" У.Барадача. Пасьля гэтага зьявіліся людзі ў цывільным, якія прадэманстравалі пасьведчаньні КДБ і даставілі У.Барадача ў Цэнтральны РАУС г.Мінска, дзе ён знаходзіўся амаль 5 гадзінаў. Супрацоўнікі РАУС і КДБ правялі вобыск у машыне У.Барадача і канфіскавалі 4.000 улётак "Свабоду Чыгіру". Быў складзены пратакол аб парушэньні арт.172 КаАП РБ (няправільна праводзімая агітацыя), які прадугледжвае адказнасьць — адміністратыўны арышт да 15 сутак альбо штраф. У.Барадач адмовіўся падпісваць складзены пратакол, пасьля чаго быў адпушчаны на свабоду.

(Працяг на стар.6-7)

# Суды так і не адбыліся

1 траўня на плошчы Незалежнасьці г.Мінска адбыліся шэсьце і мітынг, санкцыянаваныя ўладамі.

Асобнай калонай па плошчы прайшлі прадстаўнікі Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" пад кіраўніцтвам Мікалая Статкевіча і Свабодных прафсаюзаў пад кіраўніцтвам Міхаіла Марыніча. У калоне апазіцыі ішлі таксама сябры каманды кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.

Дэманстранты абыйшлі вакол плошчы Незалежнасьці — як напярэдадні было ўзгоднена з кіраўніцтвам міліцыі (на плошчы ў гэты час праходзіў "афіцыйны" мітынг, куды людзей зьбіралі паводле сьпецыяльнай "разнарадкі", якую кіраўнікам прадпрыемстваў і ўстановаў "спускалі зьверху": колькі чалавек павінна прыйсьці, колькі мець сьцягоў, плакатаў і партрэтаў прэзідэнта). Пасьля гэтага ўдзельнікі акцыі разышліся, толькі каля гатэлю "Мінск" засталася невялікая купка жанчынаў, якія сьпявалі народныя песьні. Супрацоўнік міліцыі з дапамогаю мегафону настойліва стараўся перакрычаць іх, загадваючы спыніць сьпевы, бо сьпявачкі, аказваецца, "парушалі закон".

Затрыманьні ўдзельнікаў "апазіцыйнага" шэсьця пачаліся адразу пасьля заканчэньня першамайскай дэманстрацыі. Былі арыштаваныя Мікола Статкевіч, Ганна Статкевіч (16 гадоў, дачка Міколы Статкевіча — старшыні сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада"), Ігар Сімчанка (жыхар г.Брэста), Міхаіл Ганчарык, Леанід Дзейка, Аляксандр Абрамовіч (жыхар г.Барысава), Мікалай Усьціменка, Сяргей Салдаценка, Міхась Арастовіч, Сьвятлана Ганчаронак, Георгі Саламенік, Цімафей Дранчук (непаўналетні), Таццяна Марозава (непаўналетняя), Міхась Марыніч (старшыня Свабоднага прафсаюзу металістаў), Вячаслаў Козел, Мікалай Жукоўскі. Непаўналетніх, а іх было чацьвёра, пратрымалі ў пастарунку больш за пяць гадзінаў, хаця па закону мелі права затрымліваць ня болей, чым на тры гадзіны.

У апазіцыйную калону выпадкова патрапілі трое рабочых, якія былі на добрым падпітку. Міліцыянты іх адпусьцілі адразу і нават вярнулі пляшкі з гарэлкай. Пры складаньні пратаколу рабочыя заявілі, што іхняе начальства прапанавала ім пайсьці на мітынг і крычаць лозунгі супраць НАТО, за што абяцалі адгулы і прэмію.

3 траўня ўсе затрыманыя зьявіліся ў суд Маскоўскага раёну, дзе павінен быў адбыцца суд над імі за парушэньне закону аб мітынгах і шэсьцях (арт. 167.1 КаАП РБ). Судзьдзя Е.Тройніч прыняла рашэньне перанесьці суд на сераду 5 траўня на 15 гадзінаў, каб за гэты час лепей пазнаёміцца са справамі.

5 траўня судовая вытворчасьць па справах удзельнікаў дэманстрацыі была спыненая дзеля адсутнасьці ў іх дзеяньнях складу адміністратыўнага правапарушэньня.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Лацінаамерыканскі варыянт?

*(Пачатак на стар. 1)*

Падзеі апошняга часу даюць падставы сьцьвярджаць, што беларускі рэжым пачаў асвойваць і ажыцьцяўляць на практыцы багаты вопыт лацінаамерыканскіх дыктатураў. У краіне сталі раптоўна паміраць, выпадкова гінуць, проста зьнікаць дзеячы апазіцыі, палітыкі ды іншыя непажаданыя ўладам людзі. Менавіта так: без суда і сьледства, бяз арыштаў і турмы — ціха і непрыкметна. Прыгадаем толькі "загадкавыя" выпадкі, што адбыліся за апошнія два месяцы: сьмерці Генадзя Карпенкі, Славаміра Амбружэвіча, Арнольда Пячэрскага, зьнікненьні Тамары Віньнікавай і Юрыя Захаранкі... Гэты далёка ня поўны ланцужок наводзіць на трывожны роздум.

Задумацца над верагоднасьцю прымяненьня ў Беларусі лацінаамерыканскага варыянту барацьбы з апазіцыяй многіх прымусіла якраз зьнікненьне Юрыя Захаранкі. Былы міністр унутраных справаў РБ адыгрываў апошнім часам у беларускай апазіцыі адну з ключавых роляў. І аўтарытэт ягоны быў даволі вялікі. Асабліва з пачаткам стварэньня ім арганізацыі пад назвай "Саюз афіцэраў" і актыўным удзелам у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Між іншым, "ніткі" ад яго ішлі да "зьнікнуўшай" Т.Віньнікавай і памёршага Г. Карпенкі. Ён шмат пра іх і ад іх ведаў... І таму зьвязваць ягонае зьнікненьне з "крыміналам", як гэта нязграбна спрабуюць зрабіць улады, зусім беспадстаўна. Навідавоку праява палітычнага тэрору, які добра вядомы тым, хто хоць трохі знаёмы з гісторыяй барацьбы за самазахаваньне лацінаамерыканскіх дыктатураў. Прычым, паўторымся, у самых гнюсных і подлых яе варыянтах.

Насьцярожвае і той спакой, з якім улады ўспрымаюць усе гэтыя зьнікненьні і сьмерці. Цень, безумоўна, падае на іх, але яны зусім не парупіліся, каб хоць што-небудзь прасьвятліць. Былая старшыня Нацбанка Т.Віньнікава зьнікла 8 красавіка, Ю.Захаранка — роўна праз месяц — 8 траўня, ад іх зьнікненьня прайшло нямала часу, а ў сьледчых няма нават версіяў наконт іх мажлівага месцазнаходжаньня.

Затое, па словах дэпутата ВС 13-га скліканьня, лідэра Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў Анатоля Лябедзькі, нехта ўпарта распускае чуткі наконт таго, "хто наступны" у чарзе на зьнікненьне: Багданкевіч, Шлындзікаў, Ганчар... "Мэта, — сьцьвярджае А.Лябедзька, — запалохаць нас і падштурхнуць да эміграцыі..."

З другога боку, усяляк заахвочваюцца будучыя тантон-макуты з уласных манкуртаў. "Не заўважаецца" і дзейнасьць прафашысцкіх арганізацыяў тыпу Рускага нацыянальнага адзінства. Улада, і найперш прэзідэнт, даюць усім зразумець, што дзеля самазахаваньня яны не спыняцца ні перад чым.

**Андрэй НАЛІВА**

*Ліст у рэдакцыю*

# Пад уціск патрапіў кожны...

Дасылаю Вам ліст, у якім хачу расказаць пра рэпрэсіі з боку мясцовай "вертыкалі" у адносінах да сяброў Сьвіслацкай (Гродзенская вобл. — *рэд.*) раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. Ужо ў пачатку сакавіка ўсіх сяброў Сьвіслацкай РВК сталі па чарзе выклікаць у раённую пракуратуру. Усіх пакаралі афіцыйнымі папярэджаньнямі. Калі я спытаў у памочніка пракурора, які нас "прымаў", хто нам вынес папярэджаньні, ён адказаў, што паперы на гэта прыйшлі з Мінску — на кожнага сябра РВК у двух асобніках. Адзін асобнік яны пакінуць сабе, а другі адашлюць у Мінск.

Усяго ў нашай выбарчай камісіі было дзесяць чалавек. Пасьля запалохваньняў засталося восем. Прыцягнуць да працы новых сяброў вельмі цяжка. Усе баяцца рэпрэсіяў з боку ўладаў, баяцца страціць хоць якое працоўнае месца. Старшынёй Сьвіслацкай РВК зьяўляецца Віктар Трышчановіч. Яго запрасіў да сябе ў кабінет старшыня райвыканкаму Анатоль Кузьма. У кабінеце таксама былі начальнікі раённых КДБ і міліцыі. Пасьля беспадстаўных абвінавачваньняў А.Кузьма прапанаваў В. Трышчановічу зьехаць з раёну і не перашкаджаць працаваць і дадаў, што ён "касьцьмі ляжа, але ўсім сябрам камісіі горла перагрызе"...

А.Кузьма выклікаў да сябе на размову і намесьніка старшыні РВК Анатоля Валюка, якога потым "запрасіў" да сябе сьледчы РАУС сп. Калач. Сьледчы пытаўся пра дзейнасьць камісіі, пра фінансаваньне выбараў, пра тое, дзе знаходзяцца пратаколы пасяджэньняў і г.д. Сакратару РВК Генадзю Радэцкаму завуч СШ№3, дзе ён працуе, сказаў ад імя дырэктара школы, што калі ён будзе працягваць дзейнасьць у РВК, звольняць яго з працы без папярэджаньняў. Бацьку сябра РВК Іосіфа Дмухоўскага выклікаў да сябе А.Кузьма і загадаў паўзьдзейнічаць на сына, а інакш ён звольніць яго з працы...

Падобныя прыклады можна доўжыць. Гэткі ўціск толькі здалёк можа паказацца нязначным. На справе ж у правінцыі, дзе кіраўнік "вертыкалі" поўны гаспадар (па загадзе А.Кузьмы ні адзін з кіраўнікоў арганізацыяў не адважыцца ўзяць на працу нейкага "апазіцыянера"), усё гэта дужа істотна...

З надзеяй на перамогу. Жыве Беларусь!

**Віктар НАВАСАД**

# Маці патрабуюць справядлівага суда для сваіх сыноў

## Нататкі з прэс-канферэнцыі, што адбылася 6 траўня 1999-га году ў офісе Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96"

21 красавіка 1999 году ў Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь пачаўся працэс па крымінальнай справе аб забойстве Яўгена Мікалуцкага, старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласьці, дэпутата Нацыянальнага сходу і асабістага сябра прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі. Яўген Мікалуцкі загінуў 6 кастрычніка 1997 г. у выніку выбуху радыёкіраванага выбуховага прыстасаваньня, усталяванага ў пад'езьдзе дому, дзе ён жыў.

Закрыты судовы працэс па крымінальнай справе тычыцца трох жыхароў Магілёва — Анатоля Гаўрылава (24 гады), Рамана Радзікоўскага (28 гадоў) і Віктара Янчэўскага (36 гадоў). Ім інкрымінуюць зьдзяйсьненьне шэрагу злачынстваў. Віктару Янчэўскаму прад'яўленае абвінавачваньне ва ўчыненьні тэрарыстычнага акту супраць Я.Мікалуцкага. Раман Радзікоўскі і Анатоль Гаўрылаў абвінавачаныя ва ўдзеле ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акту супраць прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі. Згодна з матэрыяламі сьледства, ў падсудных канфіскаваная вялікая колькасьць зброі, а таксама сродкі для назіраньня і падслухоўваньня, якія выкарыстоўваліся падчас падрыхтоўкі тэракту.

Судовы працэс закрыты. У залу суда не атрымалі доступу прадстаўнікі АБСЕ у Беларусі Крыстафер Паніко і Надзея Дударава — іх дапусьцілі роўна на столькі, каб сказаць, што іх удзел у працэсе немагчымы.

6 траўня ў офісе Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" адбылася прэс-канферэнцыя з роднымі Рамана Радзікоўскага, Анатоля Гаўрылава, Віктара Янчэўскага.

Маці падсудных паведамілі, што напісалі ліст, адрасаваны да трох прэзідэнтаў — Біла Клінтана, Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі. У сваім лісьце яны (а гэта Ніна Заідзе, Тамара Янчэўская і Яўгенія Гаўрылава) просяць зрабіць працэс над іх сынамі адкрытым. Маці просяць дапусьціць на суд прадстаўнікоў грамадзкасьці прэсу і родных. "Ад гэтага залежаць справядлівасьць і жыцьці нашых сыноў. Нам страшна, мы баімся за жыцьці нашых сыноў. Бо адзін з абвінавачваемых ужо загінуў у турэмнай камеры" (Валеры Ткачоў — *П.С.*). У сваю чаргу нявестка Рамана Радзікоўскага Натальля Дзяжурная і жонка Віктара Янчэўскага Людміла накіравалі ліст жаночым арганізацыям усяго сьвету. У лісьце сказана: "Сьледчыя органы аказаліся бясьсільныя выканаць загад прэзідэнта — знайсьці забойцу Мікалуцкага. Адсюль — жахлівая фальсіфікацыя фактаў, пагрозы і ціск на нашых блізкіх. За дзьвярыма суда хочуць схаваць ці неабгрунтаванасьць абвінавачваньняў, ці факты, якія могуць кінуць цень на прадстаўнікоў улады".

На прэс-канфенрэнцыі кожная з жанчын расказала пра тую бяду, якая напаткала іх сем'і.

**Ніна Заідзе (маці Рамана Радзікоўскага):** "Калі мы даведаліся, што Рамана абвінавачваюць у тым, што ён удзельнічаў у забойстве Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на прэзідэнта, нам стала проста страшна. Мы ніяк не маглі зразумець: якім чынам Раман мог удзельнічаць у гэтай справе? Але ліст мы ад яго атрымалі (ня буду казаць якімі шляхамі). Раман піша так: "Вы разьлічваеце, што ўсё будзе добра, што разьбяруцца і адпусьцяць. Але трэба зьняць ружовыя акуляры і бачыць усё ў рэальным сьвятле. Ня ведаю, якія ты (зьвяртаецца да маці — *П.С*) зрабіла крокі. У мяне ёсьць падставы рыхтавацца да горшага. Я знаёмлюся са справай, праўда пакуль што чытаю толькі 16 том, а іх усяго 37, і бачу, што справа цалкам сфабрыкаваная. У ёй я пакуль што ня бачу ніякіх канкрэтных доказаў нават супраць В.Ткачова (былы супрацоўнік КДБ Валеры Ткачоў у 1997 г. быў знойдзены задушаным у камеры, менавіта ён, паводле высноваў, зробленых сьледствам, зьяўляўся галоўным арганізатарам забойства Я.Мікалуцкага — *П.С*). Я ўжо не кажу пра сябе. Усё шыта белымі ніткамі. І наіўна думаць, што на судзе нехта будзе разьбірацца і ўстанаўліваць ісьціну. Тут усё падробленае і загадзя спланаванае апаратыўнымі і сьледчымі органамі, прычым на самым вышэйшым узроўні кіраўніцтва. Спадзявацца на нейкую справядлівасьць — значыць ня мець уяўленьня пра "беспредел", які адбываецца. Таму яны і вырашылі зрабіць суд закрытым, каб справа ня стала вядомая шырокай грамадзкасьці, бо ўсё вылезе вонкі — я маю на ўвазе ўсю гэтую ліпу і фабрыкацыю, і фікцыю. Гэта будзе проста судзілішча з загадзя вядомым вынікам. Мікалуцкі адыйшоў на другі план, цяпер мяне сур'ёзна абвінавачваюць у замаху на прэзідэнта. У наш час гэта пахне "вышкай", калі ўлічыць, як мяне старанна "абвешваюць" як навагоднюю елку рознымі сфабрыкаванымі і ілжывымі ўлікамі. Не выключаная верагоднасьць фатальнага выніку. Каго ўбачылі ў ва мне, што памкнуліся са сваімі абвінавачваньнямі да мяне, як птушкі да маяку?"

Ніна Заідзе праз сродкі масавай інфармацыі зьвярнулася да сябра свайго сына Аляксандра Кулікова — фактычна, адзінага сьведкі, на паказаньнях якога грунтуецца абвінавачваньне Рамана Радзікоўскага. Аляксандр Кулікоў на той момант знаходзіўся па-за межамі Беларусі. Маці Рамана папрасіла яго вярнуцца і сказаць на судзе праўду. А.Кулікоў ужо аднойчы паабяцаў гэта зрабіць, калі даведаўся, што Р. Радзікоўскаму пагражае расстрэл.

**Тамара Янчэўская (маці Віктара Янчэўскага):** "Калі гэта здарылася (забойства Мікалуцкага — *П.С.*), сын мой быў дома. Працаваў разам з суседам. Пасьля таго, як Віктара забралі, суседа выклікалі, ён казаў праўду, што разам працавалі. Суседа папярэдзілі: "Будзеш так гаварыць, гэта так табе ня пройдзе". Двойчы прыходзілі з аўтаматам і да суседа ў дзесяць гадзінаў вечара. Запалохвалі, каб зьмяніў свае паказаньні. Тое самае было, калі прыходзілі пытаца ў суседзяў: у якім адзеньні сын хадзіў (чалавек, якога бачылі падчас забойства на даху дома, дзе жыў Мікалуцкі, быў у спартыўным касьцюме — *П.С.*). Суседзі адказвалі, што спартыўнага касьцюма яны ніколі ня бачылі ў яго, што ён хадзіў у скураной куртцы, у кашулях і сьвітэрах. Адна суседка не захацела з імі размаўляць, яны ёй сказалі: "Зараз пойдзем самагонку ў цябе шукаць". Нават суседзі кажуць: страшна нам, што арыштуюць, забяруць — баяцца міліцыі. Мой сын невінаваты. Яму не было калі займацца тым, у чым яго абвінавачваюць, у яго сям'я, двое дзетак, ён толькі і рабіў, што працаваў".

**Людміла Янчэўская (жонка Віктара):** "Першы раз яго затрымалі 11 лістапада 1997 году. Затрымалі, вядома, прэвентыўна, на 30 сутак. Зранку 12 лістапада я патэлефанавала ва УБОП (Упраўленьне па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю), спытала, на якой падставе затрыманы мой муж. "Ён абвінавачваецца ў забойстве Мікалуцкага", — адказалі мне. Зьвярніце ўвагу: не "падазраецца", а "абвінавачваецца". Гэта розныя рэчы! Праз 17 сутак мужа


Падчас прэс-канферэнцыі *(злева-направа)* Натальля Дзяжурная, Ніна Заідзе, Яўгенія Гаўрылава, Тамара Янчэўская, Людміла Янчэўская

(Працяг на стар. 4-5)

# Маці патрабуюць справядлівага суда для сваіх сыноў

*(Пачатак на стар. 3)*

адпусьцілі дадому. А 11 сьнежня таго ж году яго зноў выклікалі ва УБОП як быццам бы падпісаць нейкія дакументы. Дадому ён ужо не вярнуўся, да гэтага часу падпісвае дакументы... Да 11 сьнежня 1997г. у нас дома былі два вобыскі. У працэсе вобыскаў у нас нічога не было знойдзена — ні выбуховых рэчываў, ні зброі. У нас была дома толькі радыёстанцыя для таго, каб падтрымліваць сувязь з маці Віктара. Яна вельмі хворая жанчына, а тэлефону ў нас няма. У яе ў любы момант можа здарыцца прыступ, і патрэбная сувязь, каб выклікаць "хуткую." Напярэдадні вынясеньня абвінавачваньня, 22 сьнежня ўвечары, я размаўляла па тэлефоне са старэйшым упаўнаважаным УБОП Ліжэнкам. На працягу 25 хвілінаў ён мяне пераконваў, што трэба ўгаварыць мужа даць патрэбныя паказаньні для сьледства супраць Ткачова (якога я ня ведала). Я слухала Ліжэнку ўважліва, але адказу ніякага не дала. На наступны дзень выклікае мяне начальнік УБОП і таксама пераконвае мяне ўгаварыць мужа даць неабходныя для сьледства паказаньні. "Я вам нават арганізую сустрэчу з мужам", — гаворыць ён. Заводзіць у кабінет мужа, садзіць яго за стол насупраць мяне. Падсоўвае яму паперу з ручкай і кажа: "Пішы ўласнаручнае прызнаньне". У яго быў 74 артыкул (бандытызм), а там ёсьць удакладненьне: калі садзейнічаеш сьледству, то вызваляешся ад крымінальнай адказнасьці. Злачынства мой муж не зьдзяйсьняў, таму ніякіх "уласнаручных прызнаньняў" напісана не было. А пасьля вынясеньня абвінавачваньня (23 сьнежня) пачаліся допыты — афіцыйныя і неафіцыйныя, падчас якіх Віктара зьбівалі — білі па галаве. Пасьля скаргі Віктара на тое, што яго зьбіваюць падчас допытаў, была судова-медыцынская экспэртыза, якая сьлядоў зьбіцьця ня выявіла. Я ведаю, што муж ніколі ня скардзіўся на сэрца, а ў студзені 1998 году яму чамусьці была зробленая эхакардыёскапія сэрца ў нашым дыягнастычным цэнтры.

Асабіста я тлумачу гэта тым, што 26 студзеня яго дапытвалі з выкарыстаньнем дэтэктара ілжы, а пасьля расклалі на стале ежу і прапанавалі яму паесьці. Там былі і бутэрброды з ікрой і вяндлінай, каньяк, налілі каву ў кубак. Натуральна, ён не ўтрымаўся ад кавы і зрабіў адзін глыток. Гэта было ў 18.00, прытомнасьць вярнулася да мужа толькі ў 24.00 у камеры. Я раблю выснову: кава была з транквілізатарамі. Яго дапытвалі сонным. На наступны дзень ён быў як пасьля вялікай п'янкі: язык чапляўся за зубы, ён хістаўся, а яшчэ праз дзень ён увесь пакрыўся сыпам — гэта была алергічная рэакцыя арганізму на перадазіроўку транквілізатараў. Я сама медсястра. А пра тое, адкуль мне ўсё гэта стала вядома я лепей буду маўчаць, каб пазьбегнуць непрыемнасьцяў. На працягу ўсяго сьледства мужа пераконвалі даць неабходныя паказаньні супраць Валерыя Ткачова і Васіля Лявонава (былога міністра сельскай гаспадаркі, які знаходзіцца пад арыштам). Муж адмовіўся ад супрацоўніцтва. Калі гэта было б зроблена (так, прынамсі, абяцаў сьледчы), яго выпусьцілі б на волю. Пад вартай Віктар Янчэўскі знаходзіцца 17 месяцаў, з іх 11 — у адзіночнай камеры. У апошняй камеры, у якой ён знаходзіўся ў Магілёўскім сьледчым ізалятары, заварылі вокны — так атрымалася, што ён быў у каменным мяшку без сьвятла. У той момант, калі здарылася гэтае няшчасьце (загінуў Мікалуцкі — *П.С.*), нашай малодшай дачцы было 7 месяцаў. У дзень забойства ён знаходзіўся дома. Напярэдадні ветрам зламала антэну ў нашай радыёстанцыі (яна была на бярозе, мы жывем у прыватным доме). 6 кастрычніка было добрае надвор'е, і муж вырашыў адрамантаваць антэну, якая магла сарвацца і пашкодзіць лінію электраперадачаў. Зранку ён быў дома з суседам. Яго бачылі ўсе суседзі.

26 жніўня 1998 г. было апазнаваньне — жонка Мікалуцкага павінна была апазнаць забойцу. Да гэтага яна знаёмілася з тамамі крымінальнай справы, дзе было фота Віктара. На апазнаваньні былі толькі сьледчы і Мікалуцкая, якая "раптоўна" апазнала Віктара, сказала, што нібыта яго бачыла ў пад'езьдзе ў дзень забойства.

Суд закрыты. Лёс Янчэўскага ўжо вырашаны (мне пра гэта сказалі). І гэта нягледзячы на тое, што з 120 экспертызаў ніводная ня сьведчыць супраць майго мужа. Забойца — гэта той, хто забіў. І яго трэба шукаць. А тут "узялі чалавека" з даўнім кляймом.

У 1990-94-ых гадах мой муж быў пазбаўлены волі. Ён праходзіў па адной справе з В.Ткачовым. Пасьля вызваленьня муж ніякіх справаў з Ткачовым ня вёў, хаця яны разам працавалі на дачы, будавалі лазьню. Некалькі разоў Віктар са знаёмымі езьдзіў працаваць на дачу да Васіля Лявонава, былога міністра сельскай гаспадаркі.

Што тычыцца Ткачова, то з абласной прэсы я ведаю, што ён доўгі час судзіўся з пракуратурай і КДБ, пісаў скаргі і тым самым настроіў супраць сябе і тых, і другіх".

Людміла Янчэўская адзначае, што хаця суд і закрыты, але ж жонка і брат Яўгена Мікалуцкага прысутнічаюць у зале судовых пасяджэньняў. У той час, як родных падсудных і прадстаўнікоў грамадзкасьці туды не пускаюць. Такім чынам, атрымліваецца, што толькі для аднаго боку суд закрыты, а для другога — адкрыты.

**Яўгенія Гаўрылава (маці Анатоля Гаўрылава):** "Я ня думала, што мяне спасьцігне такое гора. Хлопец у мяне спакойны, добры, разумны, ніколі ня ўжываў сьпіртнога, не паліў, ніколі ня быў жорсткім. У дзень забойства Мікалуцкага ён быў у ад'езьдзе — у Расіі. Дзе канкрэтна — ня ведаю. Я да гэтага часу не паразмаўляла з сынам, каб нешта даведацца. У мяне не было спатканьня за гэты перыяд. Адзін раз толькі была сустрэча ў кабінеце сьледчага. Я адзінае, што ўбачыла, што мой сын зьмяніўся, у яго твар стаў азызлым. Я спытала: "Сынок, чаго ты так зьмяніўся". "Мама, я проста шмат сплю", — такі быў яго адказ. Я ж думаю, што гэта ад страшных катаваньняў — яму рабілі і "расьцяжку", і білі моцна. Гэта пацьвярджаюць людзі. Віктар Янчэўскі быў разам з Гаўрылавым у адной камеры і нават уступіўся, калі яго моцна білі. Але ўсё гэта было ўтоенае ад мяне цалкам.

Толькі 9 кастрычніка ён пайшоў у раён гаражоў і там даведаўся пра забойства. 9 кастрычніка, калі я прыйшла з працы, то знайшла запіску ад сына пра тое, што ў нас быў вобыск. Забралі толькі касеты, якія пасьля вярнулі. Пра зброю размовы не было. Яго арыштавалі 9 кастрычніка на пяць сутак. У пратаколе зафіксавана, што ён як быццам бы аказаў супраціў уладам, хаця сам сьледчы пасьля сьмяяўся: "Як такі дробны хлопец можа аказаць супраціў?" Пасьля яго апусьцілі і сачылі за ім. 21 кастрычніка, калі ён ехаў на маршрутным аўтобусе ў 12 гадзінаў дня, да яго падыйшоў міліцыянер і адвёў яго ва ўчастак. Ніводнага сьведкі, нічога... Склалі пратакол, і атрымаў ён трое сутак. А зафіксавалі правапарушэньне — нецэнзурная лаянка. Пасьля гэтага ён адкрыта плакаў і казаў: "Мама, няўжо на мяне могуць павесіць гэтую справу?" Трэці раз яго арыштоўвала служба Упраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю. Арыштавалі на 30 сутак, прасядзеў 17 — адпусьцілі. Мне сказалі так: "Ваш сын ні ў чым ня ўдзельнічаў. Мы яго ахоўваем". Яны ўвесь час абяцалі яму ахову. Пасьля таго, як ён апынуўся зноў на волі, ноччу пачаліся званкі па тэлефоне, у дзьверы. Спытаеш, хто там — "сябры з міліцыі". Жыць



*Раман РАДЗІКОЎСКІ*



*Анатоль ГАЎРЫЛАЎ*



*Віктар ЯНЧЭЎСКІ*

спакойна мы ўжо не маглі. Для сына ўсё гэта было нечакана, ён вельмі хваравіта гэта пераносіў. У студзені 1998, напярэдадні свайго дня нараджэньня (яму было 22 гады), ён зьехаў на месяц у невядомым накірунку. Служба бацьбы з арганізаванай злачыннасьцю цікавілася ім. 28 студзеня сын вярнуўся ў Магілёў, ён сам пайшоў да іх і больш не вярнуўся — яго накіравалі ў сьледчы ізалятар КДБ. Мой сын сам здаўся, бо верыў у справядлівасьць. І да гэтага часу я ня ведаю дзесятай долі таго, што мне належыць ведаць".

**Натальля Дзяжурная (нявеста Рамана Радзікоўскага):** "У той час, калі адбылося забойства Мікалуцкага, мы зьбіраліся распісацца, рыхтаваліся да вясельля. Апрача таго, Раман вельмі доўга вывучаў каталіцкую веру, каб прайсьці таямніцу хросту. Калі Рамана арыштавалі, дык у нас правялі вобыск — забралі дрэваапрацоўчы станок, кавалкі нітак ды ізаляцыйнай стужкі. Да мяне прыходзілі на працу, паказалі "коркі" супрацоўнікаў КДБ, пасьля гэтага мяне скарацілі. Нам параілі наняць жанчыну-адваката. Але сьледчы сказаў: "Мы вам крылы паабламаем!" Мы ня ведалі, што ў гэтага адваката муж быў пракурорам. Вядома, у хуткім часе адвакат адмовілася ад справы. Пасьля гэтага ў нас было яшчэ тры вобыскі. У нас не знайшлі ніякага кампрамату, каб чалавека можна было б абвінаваціць у забойстве Мікалуцкага ці замаху на прэзідэнта. Спачатку Рамана арыштавалі на 30 сутак, пасьля гэтага тыя раны, якія былі ў яго пасьля аперацыі, загнілі. Я сказала сьледчаму:"Калі вы зробіце з чалавека калеку, гэта будзе на вашым сумленьні!"

Натальля Дзяжурная расказала пра тое, што яе запалохвалі -- ноччу кідалі ў вокны кватэры камяні. Камяні трапілі якраз у тое месца, дзе Натальля звычайна спала. Яе неаднаразова папярэджвалі: "Ты жыць хочаш? Ня лезь у гэтую справу!"

Сёлета зімой цяпер ужо былы судзьдзя Юры Сушкоў, які папрасіў палітычнага прытулку на Захадзе, так характарызываў "справу Мікалуцкага": "Усе памятаюць, як Лукашэнка быў на пахаваньні і абяцаў у дзесяцідзённы тэрмін усіх бандытаў і ворагаў народу вывесьці на чыстую ваду. Цяжка меркаваць аб ходзе сьледства, аб яго аб'ектыўнасьці. Невядома, якія там наогул былі сабраныя доказы. Адзін чалавек, якога падазравалі (Валеры Ткачоў — *П.С.*), павесіўся — загадкавая сьмерць. Гэта быў чалавек, які ніколі ня быў схільны да суіцыду... А што такое закрыты суд у нашай рэспубліцы? Яго можна зусім не праводзіць... Па дадзенай справе пацярпелым быў прызнаны сам Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Пра гэта была вынесеная сьпецыяльная пастанова. Каб прызнаць яго пацярпелым, было дастаткова, каб нехта, хто праходзіў па гэтай справе ў ходзе сьледства, прызнаўся, што такі замах рыхтаваўся"...

Ня будзем пакуль рабіць ніякіх высноваў з гэтай справы. Бо чаго вартыя паказаньні людзей, якія ў ходзе сьледства падвяргаліся псіхалагічнаму ціску і катаваньням? Для шырокай грамадзкасьці Беларусі ў "справе Мікалуцкага" шмат незразумелага і невытлумачальнага. І калі суд пройдзе за зачыненым дзьвярыма, то праўдзівая інфармацыя наўрад ці дойдзе ня толькі да шырокіх грамадзкіх колаў, але і да блізкіх падсудных, якія на сёньняшні момант патрабуюць толькі аднаго — зрабіць суд адкрытым.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

# Ён не баяўся "сістэмы"

Жыхар Гомеля Адам Лобудзеў ужо колькі гадоў захоўвае як дарагую памяць сьціплую паштоўку з горада Горкага.

«Дарагі Адам Андрэевіч! Вялікая падзяка за ўвагу! Яблыкі вельмі смачныя. Жадаем здароўя і шчасьця. Алена, Андрэй. 12 лістапада 1980 году».

Гэта няпростая паштоўка. Паштоўка з-пад варты. Прывітаньне са ссылкі. Ад Андрэя Дзьмітрыевіча Сахарава.



Як вядома з дасьледаваньняў найноўшай гісторыі нашага грамадзтва, дзеячы беларускага духоўнага супраціву бальшавіцкаму рэжыму вельмі мала падтрымлівалі сувязі з дысідэнцкімі коламі Масквы. Гэта, хутчэй, быў супраціў мастакоў, пісьменьнікаў, навукоўцаў ды іншадумцаў-адзіночак. Да пэўнага часу "адзіночкам" быў і Адам Лобудзеў. На той час такіх мала хто падтрымліваў у асяродку родных і калегаў па працы: я добра памятаю, як людзі баяліся выказваць нават лёгкую незадаволенасьць савецкімі ўладамі ўслых, баючыся, што давядзецца «сушыць сухары ўсёй сям'і». Але Адам Андрэевіч казаў, што думаў. А пагаварыць было пра што.

Ён добра разумеў, як на самой справе ў Савецкім Саюзе "захоўваюцца" асноўныя правы чалавека. "Клопат" партыі пра шчасьлівае жыцьцё працоўных зачапіў і яго. Напрыклад, з 1972 году спадару Лобудзеву давялося судзіцца з гомельскімі чыноўнікамі за свой зямельны ўчастак, які дзяржава фактычна адабрала. Падставай дзеля гэтага стаў новы план забудовы гораду. На зямлі, дзе сям'я Лобудзевых зьбіралася будаваць дом, дзяржава вырашыла ўзьвесьці свой – цагляную шматпавярхоўку. 26 верасьня 1975 году архітэктурна-планіровачнае ўпраўленьне гомельскага гарвыканкаму зьмяніла папярэдняе рашэньне, але радасьці Лобудзевых не суджана было цягнуцца доўга. Зямлю адабралі, і некалькі гадоў давялося жыць у вагончыку... Сам Адам Лобудзеў упэўнены, што несправядлівыя рашэньні суды прымалі па ўказанні КПСС і КДБ.

Савецкія сьпецслужбы пастаянна зьвярталі ўвагу на іншадумца. Пад іхным ціскам А.Лобудзеў быў вымушаны пакінуць працу. Яго самога выклікалі на допыты, кваліфікуючы барацьбу за зямлю і выказаныя ім думкі па арт.67 Крымінальнага Кодэксу – небезьвядомая «антысавецкая агітацыя і прапаганда».

Ён шмат займаўся дапамогаю палітычным зьняволеным таго часу. Даведаўся адрас Сахарава і паехаў у далёкі горад Горкі з гасьцінцамі. Думаў, пагутарыць са славутым чалавекам, на якога брэшуць савецкія газеты. Думаў ён яго маральна падтрымае. Ступень уласнай наіўнасьці Лобудзеў зразумеў толькі тады, калі стаяў на горкаўскай вуліцы перад домам Андрэя Сахарава. Дом аказаўся ачэплены аховай, якая не дала беларускаму аднадумцу Сахарава падыйсьці да ягонага двара. Ссылка, маўляў, не дазволена...

У архіве Адама Андрэевіча захаваліся паштоўкі ад рэпрэсаваных камуністамі дысідэнтаў, праваабаронцаў, проста такіх, што мыслілі і жылі «не па-савецку». Вось, скажам, ад абаронцы правоў габрэяў Аляксандра Лернера: «Дзякую вам за пасылку... Я падзяліўся ёю з Аленай Бонэр, якая прыняла яе з удзячнасьцю». Адам Лобудзеў ганарыцца тым, што сярод ягоных сяброў – праваабаронцы, вядомыя людзі. Ён ліставаўся з Андрэем Сахаравым, Аляксандрам Салжаніцыным, Пятром Якірам, Анатолем Шыранскім. І – са знакамітым кінаакцёрам Савеліем Крамаравым. Прыгадвае, які выдатны гэта быў чалавек. Прыгадвае з непрыхаванай горыччу... Увогуле, шмат хто з сяброў маладосьці сп.Лобудзева аказаўся пры камуністах у эміграцыі. Зьехала ў Амерыку і жанчына з Масквы, якая адзіная з вядомых яму юрыстаў тады ня слухалася ўказаньняў савецкіх партыйных органаў. «Выходзіць, што КПСС ніколі не была ідэалагічнай партыяй. Гэта была добра арганізаваная банда, што над мільёнамі людзей чыніла злачынствы», — дзеліцца Адам Андрэевіч сваімі развагамі.

Апошнія пяць гадоў ён вёў ліставаньне з пракуратурай Рэспублікі Беларусь, да якой мае шмат запатрабаваньняў. На думку Лобудзева, яму павінны вярнуць страчанае права на домаўладаньне, аднавіць ягонае добрае імя, заплямленае савецкімі карнымі органамі, і выплаціць заробак з 1985 году (пасьля выгнаньня з працы пад уціскам КДБ). Да таго ж ён патрабуе прыцягнуць да адказнасьці шэраг судзьдзяў ды чыноўнікаў, якія парушылі цэлы сьпіс артыкулаў розных кодэксаў (у тым ліку і Крымінальнага), чынячы несправядлівае "правасудзьдзе" над ім шмат гадоў. Калі ў 93-м годзе пракуратура абяцала разабрацца (чамусьці не зрабіла гэтага), то цяпер адтуль Лобудзеву прапануюць «спыніць перапіску». Мо таму, што ён, ня тоечыся, выкрывае ў сваіх заявах рэпрэсіўны характар савецкіх праваахоўных органаў, прыводзіць лічбы рэпрэсаваных?

Па словах Адама Лобудзева, цяпер даволі часта да яго зьвяртаюцца людзі па дапамогу, калі справа датычыцца розных пытаньняў юрыспрудэнцыі. У змаганьні з "сістэмай" стаў ён свайго роду аўтарытэтам. Хоць некалі быў звычайным рабочым.

**Тацяна СЬНІТКО**

# Падзеі Факты Каментары

*(Пачатак на стар. 1)*

*5 траўня* суд Савецкага раёна г.Мінска судзіў журналіста, праваабронцу Валерыя Шчукіна за ўдзел у антыядзернай акцыі 2 красавіка. Суд вынес рашэньне — 5 сутак адміністратыўнага арышту. Судзьдзя дазволіла В.Шчукіну адсьвяткаваць Дзень Перамогі 9 траўня на волі. 10 траўня В.Шчукін адправіўся ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік. Трапіўшы ў сьпецпрыёмнік, Валеры Шчукін вырашыў прагаласаваць за аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты. 13 траўня да сьпецпрыёмніка-разьмеркавальніка прыехалі прадстаўнікі Цэнтральнай выбарчай камісіі. Але адміністрацыя сьпецпрыёмніка не дазволіла В.Шчукіну ажыцьцявіць сваё выбарчае права.

*6 траўня* ў офісе Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" адбылася прэс-канферэнцыя з роднымі Рамана Радзікоўскага, Анатоля Гаўрылава, Віктара Янчэўскага, якіх абвінавачваюць у забойстве старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласьці Яўгена Мікалуцкага і ў падрыхтоўцы замаху на жыцьцё прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі. Маці падсудных напісалі ліст, адрасаваны да трох прэзідэнтаў — Біла Клінтана, Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі, у якім просяць зрабіць працэс над іх сынамі адкрытым. Маці просяць дапусьціць на суд прадстаўнікоў грамадзкасьці, прэсу і родных.

*7 траўня* на выезьдзе з Мінска нарад ДАІ затрымаў машыну намесьніка старшыні Гомельскай абласной камісіі Віктара Яфімава. У выніку было канфіскавана 25 тысячаў бюлетэняў для галасаваньня.

*7 траўня* раніцай у Бабруйску падчас распаўсюджваньня плакатаў, якія інфармавалі насельніцтва аб правядзеньні 16 траўня выбараў прэзідэнта, былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі старшыня выбарчай камісіі па Ленінскім раёне Ігар Хадзько і актывіст выбарчай кампаніі Алесь Чыгір. Яны былі дастаўленыя ў Ленінскі РАУС, дзе былі складзеныя тлумачальныя і пратаколы аб канфіскацыі плакатаў і ўлётак.

*7 траўня* праведзены вобыск на кватэрах сяброў Глускай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ — старшыні камісіі Ігара Кірына, намесьніка старшыні камісіі Яўгена Фалецкага і Генадзя Янушэўскага. Вобыск праводзіўся групай супрацоўнікаў Глускага РАУСу пад кіраўніцтвам лейтэнанта Кузьмянкова на падставе пастановы пракурора Глускага раёну Ігара Савасьцева з мэтай канфіскацыі дакументаў, якія маюць дачыненьне да выбараў прэзідэнта РБ. Падчас вобыску ў кватэры Ігара Кірына былі канфіскаваныя: пастанова Цэнтральнай выбарчай камісіі №192 аб арганізацыі выбараў, бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" ("Права на волю" №5) з інфармацыяй пра рэпрэсіі супраць тэрытарыяльных выбарчых камісіяў. Пры правядзеньні вобыскаў у Яўгена Фалецкага і Генадзя Янушэўскага не было знойдзена дакументаў, якія маюць адносіны да выбараў.

*8 траўня* з заявай аб зьнікненьні экс-міністра ўнутраных справаў РБ Юрыя Захаранкі зьвярнулася ў міліцыю ягоная жонка Вольга Барысаўна. В.Захаранка паведаміла, што патэлефанавала мужу па сотавым тэлефоне, і Захаранка адказаў ёй, што толькі што паставіў машыну на стаянку і ідзе дадому. "Праз 10 хвілінаў буду", — сказаў Юры Захаранка. Шлях ад стаянкі да дому займае 10-15 хвілінаў. Ю.Захаранка зьнік па дарозе. Вольга Захаранка не выключае, што магло здарыцца самае страшнае: "З ім могуць зрабіць што заўгодна, а пасьля сьпісаць усё на здарэньне на бытавой глебе". Жонка былога міністра сьцьвярджае, што ў апошні час Ю. Захаранка атрымліваў шматлікія пагрозы і папярэджаньні, якія паступалі ў сувязі з дапамогай Ю.Захаранкі кандыдату ў прэзідэнты М.Чыгіру і дзейнасьцю па стварэньні Саюзу афіцэраў. "... Было бачна, як гэта непакоіць улады. Нас увесь час падслухоўвалі, дасылалі пагрозы". Юры Захаранка быў прызначаны міністрам унутраных справаў у 1994 годзе, але праз паўтары гады зьняты. Ёсьць меркаваньне, што прычынай адстаўкі стала адмова Захаранкі выконваць тую ролю ў барацьбе з апазіцыяй, якую патрабавалі ад яго афіцыйныя ўлады.

*8 траўня* быў праведзены вобыск у кватэры Ларысы Дзьякавай — сакратара Глускай раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. Вобыск праводзіла група супрацоўнікаў Глускага РАУС на падставе пастановы пракурора Глускага раёну Ігара Савасьцева з мэтай выкрыцьця і канфіскацыі дакументаў, зьвязаных з правядзеньнем выбараў прэзідэнта РБ. Падчас вобыску канфіскаваныя наступныя дакументы: рэзалюцыя Еўрапейскага парламенту аб сітуацыі ў Беларусі, інструкцыя па запаўненьні падпісных лістоў, інфармацыйнае паведамленьне пра ўтварэньне Глускай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. Гэты вобыск быў шостым па ліку, праведзеным супрацоўнікамі праваахоўных органаў у сяброў Глускай раённай выбарчай камісіі.

*8 траўня* ў г.Магілёве былі затрыманыя некалькі сяброў участковых камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ, сярод якіх Ігар Стукалаў, які атрымаў матэрыялы для правядзеньня выбараў. І.Стукалаў быў затрыманы пры выхадзе з будынка, у якім месьціцца Магілёўская абласная выбарчая камісія. За спробу вярнуцца ў памяшканьне аблвыбаркаму ён быў абвінавачаны ў "непадпарадкаваньні законным патрабаваньням міліцыі" (арт. 166 КаАП РБ). І.Стукалаў утрымліваўся ў РАУС Цэнтральнага раёну г.Магілёва да суда. Суд адбыўся 10 траўня І.Стукалаў быў асуджаны да трох сутак адміністратыўнага арышту. Усе матэрыялы і дакументы, якія мелі дачыненьне да выбараў — канфіскаваныя.

*8 траўня* каля 18.00 на вул.Ленінскай г.Магілёва нарадам міліцыі ў колькасьці 10 чалавек на чале з лейтэнантам Куляшовым быў затрыманы аўтамабіль, у якім знаходзіліся сябры тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ г.Крычава і г.Чэрыкава — Сяргей Баравікоў, Тацяна Данілава, Сяргей Няроўны, Генадзь Раўкоў. Зрабіўшы догляд багажу, супрацоўнікі міліцыі даставілі затрыманых у РАУС Цэнтральнага раёну г.Магілёва. У РАУСе быў праведзены вобыск, канфіскаваныя 13.000 асобнікаў дакументаў. Усе сябры камісіяў утрымліваліся ў РАУС больш за 3 гадзіны, ім недазволена было патэлефанаваць родным.

*8 траўня* на аўтавакзале г.Магілёва нарадам міліцыі пад кіраўніцтвам капітана Уладзіміра Кісялёва былі затрыманыя сябры тэрытарыяльных камісіяў г.Бабруйска па выбарах прэзідэнта РБ — Анжэла Бакач, Міхась Вярбоўскі, Ігар Хадзько. Усе матэрыялы былі канфіскаваныя (15000 асобнікаў), а з затрыманых былі ўзятыя тлумачэньні. Сяброў камісій пратрымалі ў РАУСе каля трох гадзінаў і не дазвалялі тэлефанаваць.

*9 траўня* ў г. Калінкавічы Гомельскай вобл. затрыманы старшыня абласной выбарчай камісіі Яўген Мурашка. Падчас агляду аўтамабіля супрацоўнікі міліцыі знайшлі бюлетэні ды іншыя дакументы, якія маюць дачыненьне да правядзеньня прэзідэнцкіх выбараў (пратаколы абласной камісіі, а таксама раённых камісіяў па Жыткавіцкай, Калінкавіцкай, Петрыкаўскай, Ельскай, Нараўлянскай, Хойніцкай, Рэчыцкай раённых і гарадзкіх акругах). 10 траўня адбыўся суд, які вынес адносна Я.Мурашкі наступнае рашэньне — 10 сутак адміністратыўнага арышту.

*9 траўня* ў 13.30 нарадам міліцыі і ўзброенымі байцамі АМАПУ (у колькасьці 15 чалавек) было блакавана памяшканьне, у якім месьціцца Магілёўская абласная камісія па выбарах прэзідэнта РБ. Супрацоўнікі міліцыі зрабілі вобыск, падчас якога былі канфіскаваныя ўсе матэрыялы,



*На здымку: жонка палітвязьня Уладзіміра Кудзінава Зоя з дочкамі пасьля паўторнага шлюбу са сваім мужам, які адбыўся ў мінскай турме сёлета ў красавіку...*

якія тычацца выбараў прэзідэнта (бюлетэні для галасаваньня, пасьведчаньні, запрашэньні, бланкі пратаколаў) — усяго каля 1400 асобнікаў, пра што быў складзены адпаведны пратакол.

*9 траўня* на аўтавакзале г.Магілёва старэйшым інспектарам крымінальнага вышуку УУС Магілёўскага аблвыканкаму Іванам Галалобавым, ст. інсьпектарам аховы грамадзскага правапарадку Валерыем Успенскім, ст. інсьпектарам адзьдзелу дазнаньня Ленінскага РАУС ст. лейтэнантам Яўгенам Бурынскім і сяржантам міліцыі Мікалаем Валадзенкам былі затрыманыя сябры тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта РБ — Анатоль Фёдараў (намесьнік старшыні Магілёўскай абласной камісіі) і Алег Дзьячкоў. Супрацоўнікамі міліцыі былі канфіскаваныя ўсе матэрыялы, якія мелі дачыненьне да выбараў. Суд над Анатолем Фёдаравым быў прызначаны на 11 траўня. На суд, аднак, А.Фёдараў не зьявіўся. Ён накіраваў у суд заяву, у якой прасіў перанесьці судовае пасяджэньне ў сувязі з хваробай. На думку судзьдзі, гэтая заява сьведчыць пра непавагу да суда. 12 траўня ў 12.00 А.Фёдараў быў затрыманы і дастаўлены ў суд Ленінскага раёну г.Магілёва, дзе быў асуджаны да 3 сутак адміністратыўнага арышту за непавагу да суда.

*10 траўня* ў 13.00 у мястэчку Буйнічы Магілёўскага раёну нарадам міліцыі былі затрыманыя сябры ўчастковай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ — Міхась Нарановіч і Андрэй Таркан, якія праводзілі абыход жыхароў раёну, што выказалі жаданьне прагаласаваць. Затрыманыя былі дастаўленыя ў адзьдзяленьне міліцыі, дзе ўтрымліваліся на працягу дзьвюх гадзінаў. У сяброў камісіі былі канфіскаваныя ўсе дакументы, якія маюць дачыненьне да выбараў: бюлетэні, пасьведчаньні, запрашэньні, а таксама апячатаныя скрыні для галасаваньня. Быў складзены пратакол аб канфіскацыі.

*10 траўня* ў 19.00 у г.Драгічын Брэсцкай вобл., былі затрыманыя і дастаўленыя ў РАУС сябры камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Канстанцін Мысьлівец (разам з дзесяцігадовай дачкой) і Васіль Пракопчык. У сяброў камісіі былі канфіскаваныя 160 бюлетэняў для галасаваньня. Пасьля складаньня акту і пратаколу сябры камісіі былі адпушчаныя пры ўмове, што зьявяцца ў РАУС 11.05.99 г. у 8.00.

*10 траўня* на Цэнтральнай плошчы г.Лунінца Брэсцкай вобл. падчас размовы з моладзьдзю ўзброеная групай супрацоўнікаў міліцыі былі захопленыя сябры раённай выбарчай камісіі Пётр Зосіч і Валеры Гнядзько. У сяброў камісіі канфіскавалі выбарчыя бюлетэні і пячатку, а таксама абвінавацілі іх па арт. 167 КаАП (парушэньне закону аб мітынгах і шэсьцях). 11 траўня адбыўся суд, які вынес наступнае рашэньне: П. Зосічу — 10 сутак адміністратыўнага арышту, В. Гнядзько — штраф у памеры 1 млн. рублёў.

10 траўня групай супрацоўнікаў міліцыі ў форме і асобамі ў цывільным праведзены вобыск у прыватнай друкарні "Палімарк". Супрацоўнікам друкарні паведамілі, што была атрыманая інфармацыя пра тое, што ў памяшканьні закладзеная бомба. Вобыск цягнуўся дзьве гадзіны, пры гэтым супрацоўнікаў міліцыі больш цікавілі друкаваныя матэрыялы, а не выбуховае прыстасаваньне. Гэты вобыск зьвязаны з загадам, які быў дадзены ўсім супрацоўнікам КДБ і міліцыі: шукаць і канфіскоўваць любыя матэрыялы, што маюць дачыненьне да выбараў прэзідэнта РБ.

*У траўні* ў суд Маскоўскага раёну г.Мінска падала скаргу група грамадзянаў, у якую ўваходзяць вядомы юрыст Гары Паганяйла. У якасьці адказчыка прыцягваецца мэр г. Мінска Уладзімір Ярмошын. У лютым 1999г. У.Ярмошын сваім рашэньнем забараніў калоне антыфашыстаў праход па праезнай частцы пр. Скарыны, чым, на думку істцоў, груба парушыў правы грамадзянаў.

*11 траўня* ў Мінску на вул. Жукоўскага быў затрыманы сябра ўчастковай выбарчай камісіі Кастусь Рэзьнічак, які рабіў абыход кватэраў па заяўках людзей, якія выказалі жаданьне прагаласаваць датэрмінова. Супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі ў К.Рэзьнічка скрыню для галасаваньня, бюлетэні і пасьведчаньне. А таксама сказалі, каб чакаў позву ў суд.

*11 траўня* ў памяшканьні Таварыства беларускай мовы быў праведзены вобыск. Байцы сьпецыяльнага сапёрнага падразьдзяленьня войскаў МУС на працягу гадзіны шукалі бомбу.

# Жыцьцё "Вясны..."

23-25 красавіка пад Мінскам адбылася 13-ая сустрэча Цэнтраў Плюралізму пад назваю: "Змагаемся за дэмакратыю". На сустрэчу сабралася шмат дэлегатаў з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, прадстаўнікі найбольш актыўных беларускіх няўрадавых арганізацыяў. У сустрэчы браў удзел палітычны вязень з Кубы Хаўер дэ Сэспэндэс, які адсядзеў больш за 20 гадоў у Кастраўскіх вязьніцах. Дабіраўся ён да Мінску з прыгодамі. Хаўера дэ Сэспэндаса, які прыляцеў на самалёце з кубінскім пашпартам, разьвярнулі ў мінскім аэрапорце і адправілі ў Варшаву. Тады ён паехаў на цягніку і толькі такім чынам перасёк беларускую мяжу.

Другі дзень сустрэчы быў прысьвечаны беларускім праблемам. 10-хвілінны даклад па сітуацыі з правамі чалавека ў краіне меў старшыня "Вясны-96" Алесь Бяляцкі.

27-30 красавіка 1999 года ў Варшаве прайшоў семінар па чалавечым вымярэньні: "Правы чалавека. Роля місіяў на месцы", наладжаны Арганізацыяй па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ).

На семінары прысутнічалі прадстаўнікі групаў АБСЕ з розных краінаў, а таксама з іншых міжнародных афіцыйных арганізацыяў (ААН, ЮНЕСКА, СЕ), урадавых і няўрадавых грамадзкіх арганізацыяў, зацікаўленых у абмеркаваньні праблемаў працы групаў АБСЕ. Беларусь прадстаўлялі сябры некалькіх няўрадавых арганізацыяў, сярод якіх былі прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" і Беларускага Хельсінскага Камітэту. Прадстаўнікі беларускай няўрадавай дэлегацыі крытыкавалі палітыку беларускіх уладаў у галіне абароны правоў чалавека, а ўрадавы бок, прадстаўлены старшынёй "палатнай" камісіі па правах чалавека ў асобе сп.Кулакоўскага, спрабаваў даказаць, што ніякіх парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі не адбываецца.

З 30 красавіка па 1 траўня 1999 году ў Вільні (Літоўская Рэспубліка) адбылася сумесная беларуска-літоўская канферэнцыя на тэму "Перспектывы супрацоўніцтва літоўскіх і беларускіх няўрадавых арганізацыяў".

Беларуская дэлегацыя была прадстаўленая няўрадавымі арганізацыямі розных накірункаў. Сярод арганізацыяў, якія прынялі ўдзел у канферэнцыі, былі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Малады Фронт, ЗБС, "Супольнасьць", Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" ды інш. Падчас правядзеньня канферэнцыі беларускія госьці наведалі віленскую беларускую школу імя Ф. Скарыны, мелі сустрэчу са старшынёй ЦВК Літоўскай Рэспублікі сп. Зянонасам Вайгаўскасам, прадстаўнікамі палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў.

Канферэнцыя выклікала цікавасьць з боку мясцовых СМІ. Сябра ЦВК па выбарах прэзідэнта РБ Уладзімір Лабковіч і прадстаўнік Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" Валянцін Стэфановіч далі інтэрв'ю беларускаму каналу літоўскага тэлебачаньня, у якім пракаментавалі сітуацыю, якая склалася ў Беларусі напярэдадні правядзеньня прэзідэнцкіх выбараў.

З 3 па 7 траўня дэлегацыя "Вясны-96" наведала Прагу (Чэшская Рэспубліка), дзе сябрамі чэскіх праваабарончых арганізацыяў "Хельсінскі форум" і "Чалавек у патрэбе" была арганізаваная цікавая пазнавальная праграма. Беларусы пабывалі ў праскім гарадзкім судзе, у жаночай турме, якая знаходзіцца пад патранажам манашак, у адвакацкай фірме і ў школе паліцыі.

11 траўня ў офісе "Вясны-96" адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Рэгіянальнага еўрапейскага бюро ПРАААН (штаб-кватэра знаходзіцца ў Браціславе) сп.Ё.Аэбэрнардам і В.Сіроткіным. Госьці цікавіліся сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі.

13 траўня ў офісе "Вясны-96" адбылася сустрэча з прадстаўнікамі чэскіх моладзевых і праваабарончых арганізацыяў, якія былі зацікаўленыя ў наладжваньні больш шчыльных кантактаў па пытаньнях абароны правоў чалавека. Былі дасягнутыя папярэднія дамоўленасьці аб далейшым супрацоўніцтве.

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

Жодзінскі ізалятар мае адметную гісторыю. Ён быў адчынены ў 1993 годзе як паказальная рэжымная ўстанова. Прататыпам стаў вядомы расійскі сьледчы ізалятар "Белый лебедь", што ў горадзе Салікамску, пра які дагэтуль ходзяць легенды. "Чорны Бусел" знаходзіцца ў правінцыі і большасьць праверак яго абмінае. Таму і творыцца ў ім поўнае міліцэйскае "бязьмежжа", у выніку якога шмат вязьняў выходзіць адсюль пакалечанымі. Бывалі тут і "выпадковыя" сьмерці. Пэўна ж, мы з Вадзімам Лабковічам апынуліся менавіта ў "Чорным Бусьле" зусім невыпадкова...

Вадзіма, як я даведаўся праз колькі дзён, пасадзілі ў камеру ў трэцім турэмным корпусе. Гэта корпус для непаўналетніх. Мяне ж адправілі на другі паверх чацьвёртага корпусу, у турэмны шпіталь. На першым паверсе гэтага корпусу былі жаночыя камеры.

У "хату" мяне завялі а шостай гадзіне раніцы. Адчыніўшы цяжкія жалезныя дзьверы, ахоўнік упіхнуў мяне ў памяшканьне і ляснуў за сьпіною засаўкаю. Адразу ж устаў з нараў адзін з вязьняў і, убачыўшы, што я дрэнна сябе адчуваю, прапанаваў прысесьці. Потым распытаў, хто я, за што сяджу і чаму паклалі ў шпіталь. Пачуўшы мой расповед – вельмі зьдзівіўся, бо, аказваецца, на днях чытаў пра мяне ў "Советской Белоруссии" (дарэчы, гэта адзіная газета, якую дазволена чытаць у Жодзінскім СІЗА).

Зранку, калі ў камеры запалілі сьвятло, я агледзеўся. Пасьля стаўбцоўскага ізалятару гэтая "хата" падалася мне нават вельмі ўтульнай. Каля шасьці метраў удоўжкі і чатыры ўшыркі, трое двух'ярусных нараў каля сьценаў, прыбіральня, стол і дзьве лавы пасярэдзіне, невялічкая шафа, прыбітая да сьцяны. Усё гэта было металічнае, а сьцены, падлога і столь — бятонныя. На шэсьць месяцаў у камеры было ўсяго чатыры чалавекі. Як мне патлумачылі іншыя вязьні, шпіталь, у адрозьненне ад "агульных хатаў", ніколі не перагружаюць людзьмі. Мне дапамаглі разьмясьціцца, паказалі, як чым карыстацца, і што чапаць ня трэба. У сем гадзінаў раніцы падалі сьнянданак.

Усім, хто знаходзіцца ў турэмным шпіталі, выдаецца дыетнае харчаваньне, якое ўключае ў сябе сьнянданак — 200 грамаў малака, палова варанага яйка і падвоеная пайка рысавай кашы (прыблізна 6 поўных лыжак). У абед звычайна даюць бульбяны суп на першае і пярловую кашу на другое (усяго па 8-10 лыжак). І на вячэру часьцей за ўсё падабенства юшкі, ад якой усе адмаўляюцца. Яшчэ на суткі выдаюць 250 грамаў чорнага і 400 грамаў белага хлеба, 40 грамаў цукру. Тройчы пасьля прыёму ежы наліваюць кіпень, які ахова называе гарбатаю. Лыжкі і міскі выдаюцца толькі на час харчаваньня і адразу ж забіраюцца.

Расклад дня ў СІЗА такі: пад'ём у 6 гадзінаў, сьняданак у 7 гадзінаў, праверка ў 8.00 – 8.20, абед у 13 гадзінаў, вячэра ў 18 гадзінаў, праверка ў 20.20 – 20.40. Астатні час – амаль вольны, але вязьняў гэта зусім ня радуе. Занніцца тут няма чым. Спаць удзень – нельга, чытаць можна толькі кнігі з турэмнай бібліятэкі. Іх раздаюць па камерах 1 раз на месяц. Усе яны пяцідзесятых гадоў выпуску, і пераважная большасьць — пра шахцёраў-стаханаўцаў ці пра БАМ. Лісты адпраўляць і атрымліваць нельга, з газетаў маецца толькі "Советская Белоруссия". Атрымаць тэлевізар ад родных – суцэльная праблема. Да таго ж, пры першым жа парушэньні рэжыму любога з сукамернікаў яго забірае ахова.

Каб нечым заняць зэкаў, міліцыянты раз-пораз прымушаюць іх рабіць прыборкі ў "хаце", заліваючы падлогу халоднай вадою. Робіцца гэта так. Усіх вязьняў выганяюць на калідор і ставяць на "расьцяжку". "Расьцяжка" — гэта калі твае рукі ўпіраюцца ў сьцяну ў паўметры ад падлогі, а шырока растаўленыя ногі — у падлогу. Такая пазіцыя цела вельмі стамляе, і зэкі часта падаюць. Тады іх ударамі ног прымушаюць заняць "зыходную". У гэты час адзін з ахоўнікаў адчыняе кран з халоднаю вадою і накіроўвае струмень на падлогу. Вада льецца, пакуль не дасягне вышыні ганку. Тады зэкам загадваюць зьняць абутак і босымі нагамі на бятоннай падлозе, на 7-8 сантыметраў у ледзяной вадзе – стаяць у камеры. Натуральна, што ўсе ўласныя рэчы, якія захоўваюцца заўсёды пад нарамі, прамакаюць дазваньня. Пасьля ахоўнік загадвае ўзяць свае кубкі для гарбаты, чэрпаць імі ваду і бруд з падлогі і выліваць у прыбіральню. На гэтую "аперацыю" даецца 20-30 хвілінаў, калі ж не пасьпяваеш, "водная працэдура" паўтараецца. Звычайна пасьля такіх "прыборак" палова камеры хварэе.

Існуе яшчэ адзін спосаб выкарыстаньня аховаю вольнага часу зэкаў. У Жодзінскім СІЗА пры ўваходзе ў камеру міліцыянта, а гэта здараецца звычайна пад час праверак, трэба гучна, а галоўнае ўсім разам, сінхронна выкрыкнуць:

— Здрасьце, гражданін начальнік!

Бываюць выпадкі, што нехта выбіваецца з агульнага рытму, і тады ўсіх прымушаюць паўтарыць. Калі зноў "сінхрону" не атрымліваецца, то ўсіх зэкаў выводзяць з "хаты" на калідор і б'юць. Але здаралася і іншае. Аднойчы, ужо ўзімку, пасьля аднаго такога няўдалага "здрасьце", ахоўнікі нічога не сказалі і моўчкі выйшлі. А праз паўгадзіны ў камеру зайшоў так званы "рэзерв", які складаецца з 3-4 ахоўнікаў у бронекамізэльках. З сабою яны ўзялі сабаку. Навошта, мы зразумелі толькі тады, калі адзін з ахоўнікаў апрануў сабаку на галаву сваю вайсковую шапку. Такім чынам, сабака выконваў ролю ахоўніка і, калі яго торгалі за повад, гучна брахаў, а мы павінны былі яму адказваць:

— Здрасьце, гражданін начальнік!

Так працягвалася хвілін трыццаць...

Але скончым гэтае невялікае "лірычнае" адступленьне і вернемся назад. Такім чынам, 12 верасьня 1997 году я апынуўся ў камеры №120 Жодзінскага СІЗА. Назаўтра ў ёй зьявіўся малады хлопец, які сказаў, што хворы на страўнік. Ён адразу пачаў шукаць да мяне нейкія падыходы, сказаў, што чуў пра маю справу і, як "вопытны зэк", раіў мне па прыкладзе Анатоля Адамчука, які праходзіў па вядомай "справе Паўла Шарамета", напісаць "пакаянную" самому Аляксандру Рыгоравічу ці хоць бы ў "Советскую Белоруссию". Нават абяцаў знайсьці мне асадку, паперу, канверт і праз знаёмага ахоўніка адправіць "пакет" па прызначэньні. Асноўнымі яго аргументамі былі запалохваньні. Маўляў, цябе будуць зьбіваць, а ў "агульнай" камеры, калі выпішашся са шпіталю, цябе "апусьцяць". Праз тры дні ён зразумеў, што ягоныя жахі ня робяць на мяне патрэбнага ўражаньня і адчапіўся. А на наступны дзень яго перавялі ў іншую камеру.

Падыходзіў да сканчэньня першы месяц нашага з Лабковічам зьняволеньня. 23 верасьня нам нечакана загадалі здаць бялізну, матрасы і рыхтавацца да этапу.

Выклік на этап маральна ўзбадзёрыў мяне. Як я зразумеў, штосьці павінна вырашыцца. І, набраўшыся мужнасьці, яшчэ да выезду з СІЗА абвясьціў паўторную сухую галадоўку.

Аднак мэта выкліку была простая. Па нашай справе быў прызначаны новы сьледчы з пракуратуры раёну Васіль Сьцяпанавіч Папін. Сьледчы – "важняк" ці, інакш кажучы, па асабліва цяжкіх (важных) злачынствах.

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 31-32)*



**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А.Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*